**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№44(708) 31 кастрычніка 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





Першынство Глыбоцкага раёна па шахматах.
Працяг тэмы на стар.4
*Фота Я. Самсонава.*

**Шаркоўшчынскі раён**

# Тавары на розны густ

■ Станіслаў Раманчук

**Пакрыху і ў аддаленыя рэгіёны, асабліва ў сферы гандлю, пранікае канкурэнцыя за спажыўца.**

З нецярпеннем у райцэнтры Шаркаўшчына чакалі адкрыцця пасля капітальнай рэканструкцыі ў выхадны дзень буйной крамы прамысловых тавараў “Для ўсёй сям’і”. Мясцовае райпо ўклала ў абнаўленне гандлёвай кропкі і аснашчэнне яе сучасным абсталяваннем 2 млрд. рублёў. Напярэдадні ўрачыстай цырымоніі запуску магазіна ў эксплуатацыю калектыў райспажыўсаюза ўзначаліла новы энергічны старшыня Наталля Пятрова. Яна і перарэзала чырвоную лентачку разам з кіраўніком раёна Мікалаем Баговічам. Для жыхароў гарпасёлка, безумоўна, зручна, што пад адным дахам можна набыць разнастайныя тавары ад адзення і абутку да ювелірных упрыгожванняў, тавараў, цацак для дзяцей. Спажыўцам прапануўваецца шырокі выбар айчыннай і замежнай касметыкі і галантарэі, ёсць і аддзел спартыўных тавараў. Як і ў іншых гандлёвых кропках, пакупнікам прапануўваюцца скідкі, будуць праводзіцца розныя акцыі. Першым пакупнікам уручылі памятныя сувеніры, а тым, хто набываў тавар коштам больш 100 тысяч рублёў, была скідка 10 %. Гэты вялікі гандлёвы аб’ект стаў канкурэнтам другой папулярнай у райцэнтры прыватнай крамы бытавой хіміі “Цёця Ася”. Дарэчы, тут раней была праведзена рэканструкцыя і магазіна гаспадарчых тавараў. Пасля абнаўлення значна выраслі аб’ёмы грашовай выручкі ва ўніверсаме гандлёвай сеткі “Родны кут”. Пакупнікам стала зручна, бо сваю фірменную секцыю адкрыла тут і адно з вядучых прадпрыемстваў па вырабе мэблі з Пінска.

**Пастаўскі раён**

# Сцеражыся “гастралёраў”

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам у глыбінцы стала меней крымінальных злачынстваў, але значна ўзрасла пры гэтым колькасць розных крадзяжоў маёмасці.**

І ўсё часцей сталі з’яўляцца заявы грамадзян аб супрацьпраўных дзеяннях з боку асоб цыганскай нацыянальнасці. Вось і ў Пастаўскім раёне моцна былў абураны жыхар вёскі Лашукі. Да яго ў двор заехалі на мікрааўтобусе некалькі цыганоў і прапанавалі набыць набор прыгожага посуду за 1 млн. рублёў. Пакуль ішоў торг, няпрошаныя гастралёры змаглі забраць у вяскоўца амаль 7,5 млн. рублёў і зніклі ў невядомым накірунку. Ва ўсялякім выпадку аператыўны вышук міліцыі паказаў, што сюды дабраліся невядомыя цыгане з іншых куткоў Беларусі, бо тыя, якія жывуць у раёне, на такое б махлярства не рашыліся. Перад гэтым здарэннем яшчэ больш сур’ёзна пацярпеў жыхар адной з вуліц райцэнтра. Пакуль гаспадар наводзіў парадак на панадворку, невядомыя цыгане залезлі ў яго дом і забралі наяўныя грошы, валюту і залатыя ўпрыгожванні на 28 млн. рублёў. Таксама сёлета невядомая цыганка зайшла ў дом пенсіянеркі ў вёсцы Дзеткава і змагла ўкрасці там у пажылой жанчыны яе зберажэнні ў суме 8 млн. рублёў на “чорны дзень”. І гэта далёка не апошнія злачынствы на Пастаўшчыне, да якіх маюць дачыненне асобы гэтай нацыянальнасці. Міліцыя папярэджвае ўсіх быць вельмі пільнымі, калі да вас завітаюць цыгане. Хутчэй за ўсё за прапановай купіць тавар альбо які інструмент могуць быць і злачынныя намеры з мэтай завалодаць вашай маёмасцю альбо грашыма.

**Докшыцкі раён**

# Вопыт, варты пераймання

■ Чэслаў Якубовіч

**Вось ужо некалькі гадоў Докшыцкі раён падтрымлівае цесныя партнёрскія сувязі з калегамі па мясцовым самакіраванні ў Балвскім павеце (раёне) Латвійскай Рэспублікі.**

У сярэдзіне восені ў госці да беларусаў з Прыбалтыкі прыбыла цэлая дэлегацыя латвійскіх культработнікаў і трэнераў мясцовай спортшколы, у якой займаюцца больш паўтысячы маладых латышоў 7 рознымі відамі спорту. Работнікам культуры абедзвюх краін таксама многаму можна было павучыцца ў выбранай сферы дзейнасці. Як аказалася, нашы суседзі даволі актыўна праводзяць свой вольны час. Кіраўнік аддзела культуры муніцыпалітэта Івета Пілтыня паведаміла, што на апошняе нацыянальнае свята песні і танца Латвіі з Балвы былі адабраны ў Рыгу нават мясцовыя чатыры хоры, гарадскі аркестр і 10 вясковых танцавальных калектываў. Гэта сведчыць аб сапраўднай масавасці самадзейнасці і цязе латышоў да сваёй культуры. У кожнай воласці (сельсавеце) створаны і працуюць акрамя бібліятэкі і Дамоў культуры шмат калектываў па інтарэсах, па некалькі невялікіх этнаграфічных музеяў. Госці з Латвіі з цікавасцю пазнаёміліся з працай Таргуноўскага СДК, з цэнтрам культуры і вольнага часу ў Крулеўшчыне і з дзейнасцю клуба-музея этнаграфіі ў вёсцы Вяцера. Свая асобная праграма візіту была ў работнікаў спорту, якія падзяліліся вопытам дзейнасці, наведалі будучы водны цэнтр горада, азнаёміліся са спартыўнай базай Порплішчанскай СШ і санаторыя “Баравое”.

# Аб самым надзёным

## З ПАДРЫХТОЎКАЙ ДА СУСВЕТНАГА ХАКЕЙНАГА ПЕРШЫНСТВА БЕЛАРУСЬ СПАЗНЯЕЦЦА, ХОЦЬ УЖО БОЙКА ІДЗЕ РЭАЛІЗАЦЫЯ АБАНЕМЕНТАЎ




■ Аляксандр Цішкевіч

**Талісманам будучага чэмпіяната стаў зубр па мянушцы Волат і ўжо поўным ходам ідзе рэалізацыя па краіне рознай сувенірнай прадукцыі, вымпелаў і маек з сімволікай чэмпіянату. Іншая справа, што гэты чэмпіянат стане затратным для краіны і, хутчэй за ўсё, доўга яшчэ не акупіцца.**

Пры сённяшнім хуткаплынным жыцці час ляціць проста імкліва і яго засталося ўжо зусім нямнога да таго моманту, калі ў беларускай сталіцы возьме старт чарговы 78-мы чэмпіянат свету па хакеі ў элітнай групе. З другой спробы Беларусь і наш мегаполіс Мінск атрымалі на кангрэсе ІІХФ права на яго правядзенне, апярэдзіўшы іншых прэтэндэнтаў: Венгрыю, Латвію і Украіну. Пасля гэтага вакол месца правядзення сусветнага спаборніцтва было нямала палітычных скандалаў, гучалі заклікі яго перанесці альбо байкатаваць з-за сітуацыі з правамі чалавека і толькі сёлета ў Стакгольме члены Міжнароднай федэрацыі прагаласавалі большасцю галасоў, што ён пройдзе на беларускай зямлі.

Аднак сёлета на фоне даволі складанай эканамічнай сітуацыі высветлілася, што намечаны план падрыхтоўкі да планетарнай падзеі ў спорце пакуль зацягваецца. З гэтай нагоды беларускі лідар днямі правёў спецыяльную нараду, на якой ён быў вельмі незадаволены тэрмінамі здачы ў эксплуатацыю другой па ліку пляцоўкі для гульняў у групе “А” – навенькай “Чыжоўкі-Арэны” з трыбунамі на 8 тысяч месц для гледачоў. Улады хацелі яе ўрачыста запусціць на кастрычніцкае свята 7 лістапада, а цяпер высвятляецца, што рэальна гэты комплекс запрацуе толькі 15 снежня. Раней ніяк не атрымаецца фізічна завяршыць там усе работы, хоць яшчэ летам будаўнікі перайшлі на працу ў кругласутачным рэжыме.

Нават кіраўніку айчыннай федэрацыі хакея Я. Ворсіну давялося пачуць порцыю крытыкі з боку калег-функцыянераў у Жэневе. Дарэчы, на двух сталічных катках, уключаючы 15-тысячную “Мінск-Арэну” пройдуць 56 розных гульняў папярэдняга раўнда спаборніцтваў і чвэрцьфіналы. Рашаючыя ўжо медальныя разборкі лепшых каманд свету пройдуць ужо на пляцоўцы, на якой сёлета даволі невыразна і невынікова гуляе беларускі клуб КХЛ мінскае “Дынама”. Дарэчы, кошт уваходных білетаў на хакейныя матчы зрабілі даволі нізкім, ад 6 да 50 еўра.

Але гэта і апраўдана, бо даходы ў беларусаў нізкія. Летась, між іншым на папярэднім сусветным першынстве ў Швецыі, кошт квіткоў зашкальваў ад 200 і да тысячы еўра і там многія гульні прайшлі пры паўпустых трыбунах. У нас, як чакаецца, будзе ўсё інакш, бо можа запрацаваць праславуты адміністрацыйна-камандны фактар. Білеты паступяць у рэгіёны і адтуль арганізавана павязуць людзей у Мінск на хакей. Зазначу, што і без гэтага інтарэс да чэмпіянату свету адчуваецца і за некалькі тыдняў было рэалізавана беларусам болей 30 тысяч абанементаў, якія дазволяць назіраць за гульнямі першынства. У стартавы дзень беларуская хакейная зборная памерыцца сіламі з амерыканцамі і, шчыра кажучы, мае мізэрныя шанцы, каб на нешта спадзявацца. Моц зборнай Беларусі зараз зусім невялікая, будзе добра, калі яна захавае за сабой прапіску ў элітным дывізіёне.

Пра што казаць, калі лепшы айчынны клуб займае апошняе месца ў КХЛ і прайграе практычна ўсім сваім сапернікам. Праўда, час яшчэ ёсць і можа канадскаму спецыялісту Глену Хенлану ўдасца здзейсніць цуд і стварыць здольную да бою дружыну.

Цяпер жа аматары спорту сталі купляць новыя тыпы абанементаў ад 2 да 13,5 млн. рублёў за права глядзець усе матчы на галоўнай “Мінск-Арэне”, на якой будуць гуляць беларусы. Як вядома, каб прыцягнуць паболей замежных гасцей, уладальнікі квіткоў атрымаюць права на бясплатны бязвізавы ўезд на тэрыторыю Беларусі. Талісманам будучага чэмпіяната стаў зубр па мянушцы Волат і ўжо поўным ходам ідзе рэалізацыя па краіне рознай сувенірнай прадукцыі, вымпелаў і маек з сімволікай чэмпіянату. Іншая справа, што гэты чэмпіянат стане затратным для краіны і, хутчэй за ўсё, доўга яшчэ не акупіцца.

На гэта, напэўна, не разлічваюць, важней займець пазітыўны вобраз краіны. З добрага боку адзначым, што да дзеючых раней у Мінску 22 гасцініц цяпер дабавілася яшчэ 11 сучасных гатэляў і ёсць час яшчэ болей абнавіць інфраструктуру беларускай сталіцы. Будзем спадзявацца, што і інтарэс да першынства ў Мінску захаваецца, хоць перад гэтым у лютым у Сочы адбудзецца больш прэстыжны хакейны турнір гульняў Зімовай Алімпіяды. Пакуль жа ў лістападзе мінчанам абяцаюць арганізаваць пракат канькоў і з карысцю для здароўя пакатацца на лёдзе малых пляцовак будучых хакейных баталій сусветнага першынства з карысцю для здароўя.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 31.10.13 | | | | Пятніца 01.11.13 | | | | Субота 02.11.13 | | | | Нядзеля 03.11.13 | | | | Пнд.04.11.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +7 | +7 | +9 | +8 | +7 | +5 | +8 | +6 | +6 | +6 | +7 | +7 | +7 | +7 | +9 | +9 | +11 | +12 | +11 |
| Ціск | 750 | 751 | 753 | 754 | 754 | 753 | 751 | 750 | 748 | 747 | 747 | 748 | 747 | 745 | 744 | 743 | 741 | 739 | 739 |
| Вільготнасць | 81 | 89 | 84 | 91 | 81 | 82 | 67 | 84 | 87 | 93 | 88 | 96 | 90 | 95 | 92 | 96 | 92 | 93 | 92 |
| Вецер м/сек | 4 З | 6 З | 5 З | 4 З | 5 Пд | 5 Пд-З | 6 Пд-З | 3 Пд-З | 4 Пд | 5 Пд-З | 4 З | 2 Пд-З | 4 Пд-У | 4 Пд-У | 4 Пд | 3 Пд | 7 Пд-У | 6 Пд | 6 Пд |

## Дзень за днём

**Пры гадавым заданні-прагнозе 8,5 % ВУП Беларусі сёлета вырас толькі на 1,1 %, страты дзяржбюджэту дасягнулі ўжо 17 трлн. рублёў. Выбары ў мясцовыя Саветы пройдуць не пазней 25 сакавіка 2014 года. Акрамя збожжа ў Беларусі сёлета не дабралі і бульбы, вытворчасць прадукцыі АПК знізілася на 2,2 %. За апошніх паўгода беларускі рубель "аслабеў" да еўра больш чым на 10 %. З 1 лістапада беларусам павысілі пенсіі ў сярэднім на 5,1 %. Валютныя запасы насельніцтва наблізіліся да золатавалютных рэзерваў дзяржавы. Краіна пакуль не спраўляецца з падрыхтоўкай да чэмпіянату свету-2014 па хакеі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** У 3-м квартале сёлета рост кітайскай бурна растучай эканомікі паскорыўся на 7,8 % у параўнанні з мінулым годам, да канца года ВУП краіны вырасце яшчэ на 7,5 %.

**Літва.** Краіну абралі адным з 10 непастаянных членаў Савета бяспекі ААНза мір ва ўсім свеце на 2014-2015 гады, раней у 1974-1975 такі ж мандат там мела і тагачасная БССР.

**Сірыя.** Пасля згоды Б. Асада знішчыць арсенал хімічнай зброі ён стаў выглядаць больш адэкватным палітыкам, чым раздробленая апазіцыя рэжыму, перамовы ў Жэневе пад ?.

**ЗША.** Дэмакраты з рэспубліканцамі ў апошні момант знайшлі ў Кангрэсе кампраміс па дзярждоўгу і прадухілілі магчымы дэфолт краіны з мацнейшай у свеце эканомікай.

**Германія.** Партыя зялёных адмовілася ад перамоваў з правячым блокам ХДС/ХСС аб стварэнні кааліцыйнага ўрада, правыя вымушаны стварыць яго з сацыял-дэмакратамі.

**Францыя.** У МЗС выклікалі амерыканскага пасла пасля апублікавання інфармацыі аб татальным сачэнні Агенства нацбяспекі ЗША за палітыкамі і вядучымі фірмамі краіны.

**Літва.** З-за АЧС у Беларусі ўсім літоўцам, якія жывуць у зоне 10 км ад беларускай граніцы (яе працягласць 650 км) абавязалі да 1 снежня знішчыць свіней на панадворках.

**Расія.** У выніку тэракту днём ад выбуху бомбы ў салоне пасажырскага аўтобуса ў Валгаградзе загінулі адразу 6 чалавек, яшчэ 35 былі паранены, шэраг людзей вельмі цяжка

**Саудаўская Аравія.** Улады каралеўства адмовіліся ад членства ў Савеце бяспекі ААН з-за яго нібыта слабай эфектыўнасці ў вырашэнні важнейшых міжнародных праблем.

**Францыя.** Еўрапейскі суд па правах чалавека не змог даць ацэнку расследвання ўладамі Расіі масавага забойства палонных польскіх афіцэраў у Катыні ля Смаленска ў 1940 годзе.

**ЗША.** У абарачэнне ўвялі новыя 100-доларавыя банкноты, якія страцілі зялёны колер, але набылі найноўшыя ступені абароны і зроблены з выкарыстаннем 3 D тэхналогіі.

**Украіна.** Адразу 14 вядомых украінскіх пісьменнікаў заступіліся за беларускае выдавецтва "Логвінаў", якое пазбавілі ліцэнзіі чыноўнікі Міністэрства інфармацыі РБ.

**Расія.** Урад РФ не павысіў пенсійны ўзрост, але пачаў стымуляваць расіян да іх добраахвотнага больш позняга выхаду на пенсію, увёў норму пенсійных балаў.

**Германія.** Беларускай пісьменніцы С. Алексіевіч уручылі ў Франкфурце Міжнародную прэмію міру ў памеры 25 тысяч еўра за 2013 год, яе кнігі папулярныя ў немцаў.

**Егіпет.** У прыгарадзе Каіра невядомыя ў масках расстралялі людзей, якія выходзілі з хрысціянскага храма падчас вяселля, сярод забітых была і 8-гадовая дзяўчынка.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** У IV квартале з-за канфлікту з "Уралкаліем" Беларусь атрымае з Расіі на 2,6 млн. тон нафты меней, чым трэба, зацягваецца падпісанне і паліўнага балансу на 2014 год.

**Салігорск.** Усе падраздзяленні і службы "Беларуськалія" перавялі на скарочаны рэжым працы толькі па 3-4 дні на тыдзень, сталі затрымліваць заробкі іграком каманд "Шахцёр".

**Мінск.** Першы віцэ-прэм'ер У. Сямашка папярэдзіў, што Беларусь павінна быць гатова да рэзкага павышэння цэн на газ і на нафту праз 4 гады да сусветнага ўзроўню з 2018 года.

**Астравец.** На ўзводзімай Беларускай АЭС да канца года колькасць будаўнікоў павінна павялічыцца да 5 тысяч чалавек, з 5 лістапада там пачнуць весці бетонныя работы.

**Смалявічы.** Беларуская чыгунка не раней 2015 года зможа ажыццявіць праект стварэння хуткасных чыгуначных зносін са сталіцы да Нацыянальнага аэрапорта "Мінск".

**Слуцк.** Падчас нападзення ноччу на дом бізнесмена байцы спецгрупы "Алмаз" затрымалі банду ў масках са зброяй у складзе 5 чалавек – расіян і двух былых зэкаў з Барбуйска.

**Смаргонь.** За адмову здаць экзамен па ідэалогіі завялі крымінальную справу супраць супрацоўніка 3-га аддзела службы апаратынай дзейнасці маёра А. Касцюкова.

**Мінск.** У трэці раз перанеслі тэрмін здачы ў эксплуатацыю аб'ектаў "Чыжоўкі-Арэны", не паспяваюць і з гандлёвым цэнтрам мікрараёна, дзе пройдзе чэмпіянат свету-2014 па хакеі.

**Івацэвічы.** Міліцыя аб'явіла ў вышук 52-гадовую жонку былога старшыні райвыканкама, які папаўся на хабары ў 5 тысяч долараў і яшчэ 23 тысячы знайшлі ў іх доме.

**Гродна.** У 3 разы вырасла прапускная здольнасць міжнароднага пункту пропуску "Прывалкі" на беларуска-літоўскай граніцы пасля завяршэння яго рэканструкцыі.

**Стаўбцы.** Адразу 4 незарэгістраваныя стрэльбы і трох сабак з зашыйнікамі GPS-навігатарамі затрымалі супрацоўнікі інспекцыі аховы прыроды ў браканьераў з Мінска.

**Дудуткі.** Мясцовы музейны комплекс разам з Заслаўем, сядзібай графа Чапскага, мемарыялам "Трасцянец" уключылі ў новы турмаршрут да чэмпіянату свету па хакеі.

**Мінск.** З нармалізацыяй абстаноўкі ў Егіпце Нацыянальная авіякампанія "Белавія" аднавіла чартарныя палёты на марскія курорты ў Хургадзе і ў Шарм-эль-Шэйху.

**Магілёў.** У маладосці шафёр, потым выпускнік мясцовага машынабудаўнічага інстытута 55-гадовы Анатоль Чорны атрымаў пасаду міністра архітэктуры і будаўніцтва Беларусі.

**Крупкі.** Пад варту змясцілі вадзіцеля Рэно, які на трасе М1 на тэрыторыі раёна парушыў правілы дарожнага руху, у выніку там загінуў у ДТЗ рэктар Віцебскага дзяржуніверсітэта.

# Сярэдні заробак у Віцебскай вобласці паменшыўся на 150 тысяч рублёў




■ Дзмітрый Дзежыц

**Наступіла восень, разам з лісцем з дрэў у краіне сталі падаць і зарплаты. Налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў Віцебскай вобласці ў верасні бягучага года склала 4.825.319 рублёў і зменшылася за месяц на 149.890 рублёў.**

Верасьнёўскае падзенне заробку з лішкам "з'ела" жнівеньскі прырост у 109.702 рубля. Як вынік, у першы месяц восені заработная плата апусцілася ніжэй 4.865.507 рублёў, налічаных работнікам Віцебшчыны ў ліпені. Аналагічная сітуацыя адзначаецца па ўсёй краіне. Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў Беларусі ў верасні склала 5.374.800 рублёў, і зменшылася ў параўнанні са жніўнем месяцам на 3,1 % , або на 172,3 тысяч рублёў.

Рэальная заработная плата ( заработная плата, разлічаная з улікам росту спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) у верасні ў параўнанні са жніўнем паменшылася яшчэ больш - на 4,7%. Нават з улікам усеагульнага памяншэння заробкаў, Віцебшчына застаецца адным з самых нізкааплатных рэгіёнаў Беларусі. Па ўзроўні заробкаў яна заняла перадапошняе месца ў краіне і здолела абагнаць толькі Брэсцкую вобласць. Тройка лідэраў па заработнай плаце выглядае наступным чынам: Мінск – 6.910.410 рублёў; Мінская вобласць – 5.221.045 рублёў; Гомельская вобласць – 5.126.758 рублёў.

У верасні ў будаўніцтве сярэдняя заработная плата склала 7 325,4 тысяч рублёў, на транспарце і ў сувязі – 6 074,5 тысяч, у прамысловасці - 5 936,4 тысяч, у сельскай гаспадарцы, паляванні і лясной гаспадарцы - 4118, 8 тысяч, у адукацыі - 3 523,8 тысяч, у тым ліку настаўнікаў - 4 142 тысяч, прафесарска-выкладчыцкага складу – 5 831,5 тысяч рублёў. Заработная плата работнікаў аховы здароўя і прадастаўлення сацыяльных паслуг у верасні бягучага года склалася ў памеры 3 875,2 тысяч рублёў, у тым ліку ў галіне аховы здароўя – 3 984,9 тысяч рублёў. Сярэдняя заработная плата ўрачоў склала 6 219,6 тысяч рублёў, сярэдняга медыцынскага персаналу – 3 813,3 тысяч рублёў. Нагадаем, гаворка ідзе аб сярэдніх паказчыках па галінах і аб налічанай заработнай плаце, гэта значыць па сумах без уліку розных вылічэнняў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На сесіі абласвета дэпутатаў прызналі, што з-за недахопу сродкаў сёлета не выконваецца абласная праграма па пераасншчэнні органаў МНС на 2013-2017 гады.

**Орша.** Урад Украіны і АТ "Матор Січ" набылі кантрольны пакет акцый мясцовага авіярамонтнага завода і пачнуць тут серыйны выпуск абноўленых верталётаў Мі-8МСБ.

**Талачын.** Да канца месяца будаўнікі паспелі здаць у эксплуатацыю новы шматкватэрны жылы дом, але на Віцебшчыне яшчэ засталося 19 такіх аб'ектаў-доўгабудаў.

**Бешанковічы.** Адна з вядучых айчынных абутковых кампаній "Белвест" адкрыла ў райцэнтры свой участак нарыхтовак верху абутку з сучасным заходнім абсталяваннем.

**Лёзна.** З-за недахопу сродкаў на праграму "Дарогі Беларусі" ўчастак 31-38 км на трасе Р21 на Віцебск будзе здадзены ў 2014 годзе, застанецца яшчэ 13 км дарогі да граніцы з РФ.

**Сянно.** Мясцовыя краязнаўцы адшукалі ў вёсцы Касцелішча забытую магілу Матроны Маркевіч, аўтаркі знакамітага арнаменту на Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь.

**Шуміліна.** Вадзіцелю, вінаўніку ДТЗ з машынай хуткай дапамогі, калі загінула група медыкаў з Полацка, далі максімальны тэрмін пакарання – 7 гадоў папраўчай калоніі.

**Браслаў.** У вёсцы Рацюны на панадворку пенсіянера супрацоўнікі МНС дасталі з каналізацыйнага калодзежа каня, які туды праваліўся і сур'ёзных траўм не атрымаў.

**Талачын.** Пачалося следства па факце масавай гібелі рыбы ў возеры Глыбокае, куды трапіла невядомая атрута, матэрыяльны ўрон прырodзе склаў больш 420 мільёнаў рублёў.

**Віцебск.** У супрацоўнікаў абласной ДАІ пачала выпрабаванні новая патрульная машына па горадзе "Geely" зборкі сумеснага беларуска-кітайскага аўтазавода ў Барысаве.

**Орша.** Чарговы, 19-ты па ліку ў вобласці дом сямейнага тыпу для дзяцей-сірот урачыста адкрылі ў аграгарадку Забалацце, утульны катэдж быў узведзены за сродкі Беларусбанка.

**Паставы.** На працягу двух дзён у касцёле св. А. Падуанскага ў раённым цэнтры і ў храмах у Лынтупах, Камаях, Лучаі прайшоў музычны фестываль "Гучаць старадаўнія арганы".

**Гарадок.** У райцэнтры адкрылі новае поле са штучным сучасным газонам для міні-футбола, пачалася да "Дажынак-2014" рэканструкцыя гарадскога стадыёна.

**Докшыцы.** З траўмамі даставілі ў бальніцу маладых кіроўцаў, 29-гадовага хлопца, які раніцай вылецеў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з Опелем 24-гадовай дзяўчыны.

**Віцебск.** Новы чэмпіянат Беларусі па баскетболе мясцовы БК "Рубон" пачаў з самым маладым складам за ўсю гісторыю клуба, які з-за малых зарплат пакінулі яго лідары.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Беларусь сутыкнулася з ростам выдаткаў на ахову здароўя

**«Па колькасці бальнічных ложкаў, аб'ёмаў шпіталізацыі і колькасці наведванняў урачоў Беларусь сёння лідзіруе і сярод краін СНД, і сярод краін Еўрасаюза»**, — паведаміў у сваім выступленні на міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Эканамічныя аспекты здароўя і сістэмы аховы здароўя» намеснік міністра аховы здароўя нашай краіны Ігар Ласіцкі. Яго словы цытуе Звязда.

Так, летась на 100 жыхароў у Беларусі прыпала больш як 30 шпіталізацый. А колькасць наведванняў урачоў склала 13,2 у разліку на аднаго беларуса.

«Каб павысіць эканамічную эфектыўнасць сістэмы аховы здароўя, нам неабходна скіраваць сваю ўвагу на празмернасць аб'ёмаў медыцынскай дапамогі — гэта значыць, змагацца з нерацыянальным выкарыстаннем ложкавага фонду, зменшыць колькасць шпіталізацый, выклікаў хуткай медыцынскай дапамогі і колькасць наведванняў амбулаторна-паліклінічнага звяна, — падкрэсліў Ігар Ласіцкі.

— Беларусь, як і многія іншыя краіны, сутыкнулася ў апошнія гады з ростам выдаткаў на ахову здароўя, прычым гэтыя выдаткі растуць хутчэй, чым узровень нашага дабрабыту. Па прагнозах даследчыкаў, да 2020 года ў сістэму аховы здароўя краін Заходняй Еўропы будуць накіроўвацца 12—15% ад унутранага валавога прадукту. У Беларусі ў 2014 годзе выдаткі на ахову здароўя складуць 4,2% ад унутранага валавога прадукту, што адпавядае 34 трлн рублёў. Гэта вельмі буйная сума… Упэўнены, што ў аснове эфектыўнай дзейнасці сістэмы аховы здароўя павінна ляжаць не проста нарошчванне выдаткаў, а эфектыўнае размеркаванне і эфектыўнае выкарыстанне нашых рэсурсаў.

Як зазначыў Ігар Ласіцкі, сёння галоўны акцэнт пераносіцца на амбулаторна-паліклінічнае звяно, паколькі дапамога, што аказваецца на першасным узроўні, — найбольш даступная, запатрабаваная і менш дарагая.

Ад якасці аказання першаснай дапамогі ў многім залежаць і якасць жыцця пацыента, і доля эканамічных выдаткаў на яго медыцынскае суправаджэнне. Сёлета ў амбулаторна-паліклінічную службу будзе накіравана каля 40% ад усіх выдаткаў на ахову здароўя.

Для паляпшэння абслугоўвання пацыентаў у амбулаторна-паліклінічных арганізацыях было праведзена перааснашчэнне паліклінік, перагледжаны стандарты і клінічныя пратаколы. Актывізавана работа па ўкараненні стацыяназамяшчальных тэхналогій, ствараюцца цэнтры калектыўнага выкарыстання дарагога абсталявання, развіваецца інстытут памочніка ўрача. Урачы атрымалі права выдаваць пацыентам лісток непрацаздольнасці тэрмінам да 10 дзён, а таксама выпісваць рэцэпты пацыентам з хранічнымі захворваннямі і пацыентам ільготных катэгорый тэрмінам на паўгода.

— Мы прад'яўляем да якасці работы амбулаторна-паліклінічнага звяна самыя высокія патрабаванні: гэтыя арганізацыі павінны быць фільтрамі, якія прапускаюць праз сабе насельніцтва, усебакова ацэньваючы яго здароўе, — падкрэсліў Ігар Ласіцкі.

— Яны павінны браць пад улік кожны выпадак захворвання, прызначаць своечасовае і адэкватнае лячэнне, назіраць за зменамі ў стане здароўя пацыента, прымяняць на практыцы метады прафілактыкі. Не сакрэт, што, калі першаснае звяно працуе неэфектыўна, а ўрачы прапускаюць хваробу на пачатковым этапе, гэта цягне за сабой неабходнасць задзейнічаць стацыянарную дапамогу — высокатэхналагічную і больш дарагую.

Але і ў стацыянарных арганізацыях фінансавыя сродкі павінны працаваць эфектыўна. Так, прастой бальнічнага ложка не толькі не скарачае аб'ёмы стацыянарнай дапамогі, што фінансуюцца з бюджэту, але і пагаршае медыцынскае абслугоўванне насельніцтва ўвогуле. Ложак, які працуе неэфектыўна, фінансуецца ў памеры 2/3 ад ложка, які працуе эфектыўна. Прасцей кажучы, пусты бальнічны ложак усё роўна забірае сродкі…

## Чарговы Кубак у скарбонцы Глыбоцкага РАУС

Шостым Кубкам папоўніўся Стэнд Спартыўнай Славы Глыбоцкага РАУС, які прывезлі з чэмпіянату Віцебскай вобласці па самаабароне капітан міліцыі Міхаіл Цынковіч, старэйшы лейтэнант міліцыі Сяргей Цырбан і лейтэнант міліцыі Павел Рабінаў.

У агульнакамандным заліку глыбачане заваявалі другое месца. Удзел у спаборніцтвах, якія адбыліся 25 кастрычніка ў Віцебску, прымала 19 каманд.

У асабістым заліку ў вагавай катыгорыі да 90 кг М. Цынковіч стаў бронзавым прызёрам. Такую-ж узнагароду атрымаў і Сяргей Цырбан, а КМС Павел Рабінаў, які нядаўна прыйшоў на службу з акадэміі, заняў 4 месца.

*Яўген Самсонаў*



Міхаіл Цынковіч

## На першынство шахматнай кароны Глыбоччыны

Згодна вынікаў першынства Глыбоцкага раёна па шахматах у праграме круглагадзічнай працоўнай Спартакіяды, якія праходзілі 26 кастрычніка ў будынку Глыбоцкага дзяржпрафліцэя, пераможцам у камандным заліку стала каманда "Камбікормавы завод", другое месца – у Дзяржпрафліцэя, а трэцім прызёрам стала каманда УП ЖКГ.



Астатнія каманды: РУЭС, СПМК-26, Ахова, АП № 16, РААСіТ падзялілі адпаведна з 4 па 8 месцы.

Званне мацнейшага шахматыста 2013 года на першай дошцы ў асабістым заліку належыць Станіславу Мялешку (Ліцэй) – 4 ачкі. Па 4 ачкі набралі Сяргей Ільюшчынка (РААСіТ) і Сяргей Сырапятка (РУЭС), якія змагаліся на гэтай дошцы, але згодна ўмоваў спаборніцтваў падзялілі адпаведна 2 і 3 месца.

На другой дошцы пераможцам стаў Рамуальд Высоцкі (Камбікомавы завод), Аляксандр Сайкоўскі (РУЭС) 2 месца, а бронзавым прызёрам стаў Пётр Сікора (Ліцэй).

Сярод жанчын абсалютным пераможцам стала Вольга Салавей (Камбікормавы завод), Наталля Бахір (АП-16) – другое месца, а прадстаўніца каманды УП ЖКГ Наталля Тумчонак стала трэцім прызёрам шахматнага турніру.

*Яўген Самсонаў.*

## Вучні ад імя Язэпа Драздовіча

19 кастрычніка з вуснаў юных беларусаў – вучняў 9-га класа Падсвільскай школы -- сышла Памяць пра Язэпа Драздовіча. Яна прамовілася тут натуральна, па-роднаму. Прыгожа і выразна. Са сцэны.

У літмузычнай кампазіцыі ўдзельнічалі дзевяць дзевяцікласнікаў: Дзіма Касецкі, Уладзік Яроменка, Сяргей Семяняка, Уладзік Марцінкевіч, Каця Лебядзевіч, Яна Бельская, Таня Патыліцына, Даша Данільчанка, Яна Муравей. Іх падрыхтавала класны кіраўнік, гісторык – Людміла Іванаўна Сауліч.

Сяброўскую залу яны пазнаёмілі з Язэпам Нарцызавічам праз яго дзённікавыя запісы. Даскапала вывучылі іх на памяць. І, нібы, сам Язэп загаварыў з намі з таго далёкага двухтысячнага шляху па радзімных мясцінах.

Прэзентацыю твораў мастака і літаратурна-музычнай кампазіцыі, якую назвалі: "Таямнічасць і радасць у творчасці Язэпа Драздовіча" ўсе ўспрынялі з цікавасцю. Мерапрыемства адбылося з самага рання суботы, з паловы дзявятай гадзіны.

На святочным ранішніку мне прыемна было распавесці вучням пра апошнія мастацкія падзеі (ліпеньскі мастацкі пленэр у Перадолах і вынікі яго працы). Таксама пра ўшанаванне светлай памяці славутага земляка Язэпа ля яго вечнага спакою.

*Марыя Баравік, Падсвільская суполка ТБМ*

## Памяці Мікалая Уладзіміравіча Атрахімовіча

Не стала выдатнага чалавека, Мікалая Уладзіміравіча Атрахімовіча, якога шматлікія глыбачане ведалі, любілі і паважалі. Ініцыятыўнасць, добрасумленнасць, прынцыповасць, спагадлівасць – гэта далёка не поўны пералік тых якасцяў, за якія шанавалі і паважалі старшыню прафкама УП ЖКГ Глыбоцкага раёна М. У. Атрахімовіча. Мікалай Уладзімірвіч заўсёды быў добрым, чулым таварышам, прыкладным сем'янінам, цікавым, інтэлектуальным суразмоўцам. Менавіта такім ён назаўжды застанецца ў сэрцах і памяці сваіх калегаў і сяброў. У сувязі з заўчаснай канчынай М. У. Атрахімовіча выяўляем шчырае спачуванне ўсім яго родным і блізкім.

***Ад чальцоў прафсаюзнага камітэта і калектыва фізічнай культуры УП ЖКГ Глыбоцкага раёна.***



## Падзяка

Бацькі і выхаванцы дамоў сямейнага тыпу г. Докшыцы дзякуюць прадпрымальнікаў Докшыцкага, Глыбоцкага, Шаркоўшчынскага раёнаў за аказаную дапамогу.

**Здароўя Вам і вашым сем'ям, росквіту ў бізнесе.**

## Пачаўся ацяпляльны сезон

**А.Ю. Рацьковіч,** *інспектар цеплагрупы Глыбоцкага МРа Энерганагляду*

Пачаўся ацяпляльны сезон, а гэта значыць, што прыйшоў час падводзіць вынікі падрыхтоўкі прадпрыемстваў і арганізацый да працы ў асенне-зімовы перыяд 2013-2014 гадоў. Да 1.10.2013 г. не паспела падрыхтавацца да ацяпляльнага перыяду, не зарэгістравала пашпарт гатоўнасці і працягвае падрыхтоўку ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка». Быў складзены акт пра невыкананне ўмоў гатоўнасці, дзе вызначаныя нявыкананыя работы, а на дырэктара складзены пратакол пра адміністрацыйнае правапарушэнне па арт 20.11 КоАП РБ. Пасля сканчэння падрыхтоўчых работ будзе праведзена паўторнае абследаванне аб'ектаў, складзены і зарэгістраваны ў Энерганаглядзе акт гатоўнасці да работы ў АЗП.

Хацелася б адзначыць, што некаторымі арганізацыямі ігнараваліся тэрміны рэгістрацыі пашпартоў гатоўнасці, якія былі ўсталяваны «Графікам афармлення і рэгістрацыі пашпартоў гатоўнасці да асенне-зімовага перыяду 2013-2014 гадоў прадпрыемстваў і арганізацыямі г.Глыбокае і Глыбоцкага раёна». Так, з вялікім адставаннем ад графіка, у апошнія дні сканчэння пашпартызацыі афармлялі пашпарты гатоўнасці УП ЖКГ Глыбоцкага раёна, Глыбоцкі даследны ляcгас, Глыбоцкі філіял АУП «Віцебскаблпаліў».

Пакуль тэмпература вонкавага паветра трымаецца дадатнай, неабходна выкарыстоўваць час для наладкі сістэм рэгулявання водпуску цеплавой энергіі на ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне, ухіліць усе недагляды пры падрыхтоўцы да ацяпляльнага сезону. На кацельнях «Цэнтральная» і «РАПТ», размешчаных на балансе УП ЖКГ Глыбоцкага раёна, неабходна правесці рэжымна-наладкавыя мерапрыемствы на цеплавых сетках для раўнамернага размеркавання цепланосбіту паміж спажыўцамі цеплавой энергіі.

Правадзіць рэгулярна агляды стану цеплавой ізаляцыі вонкавых цеплавых сетак надземнай пракладкі, пры неабходнасці праводзіць бягучыя рамонты. У гэты перыяд нельга дапушчаць перапоту будынкаў, тэмпература ў адміністрацыйных і грамадскіх будынках у выходныя і святочныя дні і начны час не павінна быць вышэй за 12С$^0$, ацяпленне лесвічных пляцовак жылых дамоў, грамадскіх, адміністрацыйных будынкаў – адключана.

У выпадку прэтэнзій, якія ўзніклі падчас праходжання ацяпляльнага перыяду, да якасці цеплавой энергіі звяртацца ў Энерганагляд па тэлефоне 2-87-04.



■ Кліменцій Кожан, краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні. м. Германавічы.

# Доўг – роднай Дзісеншчыне

Тры гады ён (Язэп Драздовіч) не быў на Дзісеншчыне і такі добра засумаваў па ёй. У Глыбокім ужо сабраўся быў выправіцца ў Антаполле пехатой, але, на шчасце, трапіўся сусед з канём і ўдалося пад'ехаць аж да Паўлова. А там нацянькі праз лес зусім блізка Антаполле. На старым месцы, у хаце, перабудаванай з асеці, жылі незнаёмыя людзі. Кастусь з пляменнікам ды пляменніцай па брату Гераніму за гэты час перабраліся ажно на трэцяе месца. Неласкавы лёс запашніка загнаў іх у цесную і цёмную хатку пад лесам. Брат прыкметна пастарэў, жаліўся на дыхавіцу.

Праз пару дзён мастак схадзіў у Германавічы адведаць матчыну магілу на Цярэшкаўскім могільніку. Першыя тыдні на радзіме праходзяць у адведзінах, гасцяванні ў радні і знаёмых. Сустрэў на фэсце ў Задарожжы брата Стафана з жонкай. З Задарожжа пехатой ідзе ў Парэчча, дзе жыве самая багатая з Драздовічаў радня. Ветліва сустрэты, гасціць з тыдзень, робіць алоўкам і тушшу малюнкі з жыцця на Месяцы "У цырку Платона". Потым адпраўляецца да цёткі з бацькавага боку ў Кучыншчыну, бліжэй да засценка Стануліва, дзе прайшлі дзіцячыя гады. За час гасціны ў Кучыншчыне блукаў па гаях, адведаў Стануліва з яго дзівосна прыгожым надрэччам і пагор'ямі. Зaглянуў на радзіму маці – Барысаўшчыну. Затым падаўся ў Зароўе, дзе, як і скрозь каля Ауты, прыгожая вясёлая мясцовасць. Кругом гаі, па палях грушы, і далёка відаць на зарэчча.

Але час збірацца дамоў. "Вось я нібыта ў родным куце, у Антаполлі…" – запіша мастак 28 жніўня 1933 года. А дзе яму было яшчэ прыхінуцца, як не ля старэйшага свайго брата, шчырага і працавітага Кастуся. Са Стафанам, хоць і быў ён па гадах бліжэй, не знаходзіў паразумення. Той прагнуў жыць спрытней, лаўчэй, багацей. І хоць няпраўдай, хітрыкамі, усё ж узбіўся на ўласную зямлю. Даходзіў яе перад уладамі, дабраўся аж да Варшавы. Але Бог з ім. Мастак не зайздросціў яму, а мянушку "Хціўец" усё ж прыляпіў. Любіў сам усё чыстае, праўдзівае, шчырае ў людзях і прыродзе. Кастусь жа быў гарапашнік. Меў ужо каля сямідзесяці. Без здароўя, на чужой зямлі ледзь не парабак. А хата? Толькі што страха над галавой… Перaробленая са старой вараўні, маленькая, з двумя малымі аненцамі. І цесна, і цёмна, падлога гліняная. А пасярод хаты ваўначоска, старая, дабітая. Спадзяваўся мець з яе які грош на хатнія расходы. Але ў апошнія гады іх завялі тут не адну, і заказаў амаль не было.

Неяк на пачатку верасня разам з Кастусём адправіўся на хутар у Падорку да Стафана, дапамагчы таму малаціць пшаніцу. Карыстаючыся перапынкамі ў малацьбе ды вечарамі, зрабіў копіі "Трох алейных партрэтаў маткі і нябожчыка-брата Болюся, які ў пазапрошлым годзе адышоў на вечны супакой, будучы інвалідам з кантузіяй ног, у прытулку для вайсковых інвалідаў у вёсцы Сялюты, каля Віцебска".

Вярнуўшыся ў Антаполле, дапамагае брату і пляменнікам на палявых работах. Заўважыў, што ніколі так востра не адчуваў красы гэтага падлеснага кутка, як цяпер, у час касьбы, калі прыкладваўся на аўсянішча адпачыць, пакурыць.

"Колькі велічы ў гэтых цёмных сценах ялovага лесу, лагоднасці ў гэтых далікатных постацях белых кудраватых бярозак на цёмным фоне лесу. Колькі прыгожа гарманіраваных форм у гэтых групках бяроз і чорнае вольхі, асабліва ў праменнях вячэрняга сонца".

За колькі дзён авёс каля леснічоўкі ўбралі. Толькі, шкада, малы быў умалот. Несумленны ляснік напалову спасціў, здратаваў канём аўсяныя гоні старэйшага Драздовіча. А трэба ж было заплаціць гаспадару. Ох, невясёлы лёс земляроба…

Дзеля разнастайнасці ды з ветлівасці адведаў мастак антопальскіх суседзяў. У Антона Лапацкага здзівіўся: маляваныя ім калісь партрэты здаліся нашмат прыгажэйшымі, чым у часе працы над імі. І штось балюча азвалася ў сэрцы: "Колькі зроблена людзям партрэтаў за пражыццё на час працы, а сваім таго не парабіў". Нават аўтапартрэта няма ніводнага.

Весялейшай была прагулка ў Залессе. Мастак выправіўся туды на пошту, каб атрымаць другую рату раскладзенай Беларускім музеем (у Вільні) на дзесяць месяца выплаты за альбом старадаўняй архітэктуры. Мастак залюбаваўся мясцовасцю: азёрамі, "што цягнуліся ланцугом" – адно за адным серабрыстымі плямамі паміж узгоркаў, борам з валатоўкамі ды падобнай на шапку гарой – гарадзішчам над апошняй з азярын.



На атрыманыя грошы даручыў Кастусю купіць у Стафана "хоць пяць пудоў новай пшаніцы на прыварак для хаты…"

У вольную часіну мастак адпраўляўся ў лес. Іншы раз прыносіў цэлае бярэма ляшчыны. Ад няма чаго рабіць пачаў выразаць, аздабляць кіі, ляскі. "Няма ані палатна, ані фарб, ані адпаведнага месца для працы, каб маляваць, дык мушу хоць гэтай драбязлівай разьбою заняцца", - жаліўся дзённіку, апраўдваўся перад некім ды перад самім сабой.

Канчаўся верасень. Недалёка было да зімы. Да старой хаціны-вараўні браты з пляменнікамі дабудавалі трысцен, а зараз рабілі глінабітную падлогу. Стасюк вазіў з поля гліну. Кастусь паганяў кругом сябе пару сівак, якія дабрадушна пафырквалі, утоптваючы гліну на ток. Мастак завіхаўся з рыдлёўкай – раскідаў, падраўноўваў гліну.

24 верасня, у нядзелю, востра адчуў сваю адарванасць ад свету. Хацелася распачаць нейкую большую працу, але неспрыяльнымі ўмовамі стрымліваліся, тушыліся ўсе намеры. У новую палавіну хаты яшчэ не перайшлі. Даймала сырасць. Па вечарах мастак доўга не мог заснуць. Стала шумець увушшу. Пакуль што паціху папраўляў старыя працы свае, заканчваў нясконченыя. Падправіў вугалем пісаны абразок "Замак", мадэлю якога было гарадзішча, што непадалёк возера Пліса. І некалькі іншых, сярод якіх акварэльны малюнак "Беразвецкі кляштар". Выразаў галоўкі да нарыхтаваных кіёў. У фантастычным творы пры апісанні "вандровак" па Месяцы даваў выхад сваім перажываннем і роздуму над сучасным светам. «Прыйдуць часы, - пісаў у кастрычніку 1933 года, - калі бальшыня жыхароў нашай планеты адмовіцца ад удзелу ў войнах, адмовіцца ад гэтага штучна ўзаконенага спрадвеку сільнейшымі свету праз уладу сваю над людзьмі вялікага зладзейства, якое пхае цэлыя мільёны людзей на ўзаемнае забойства. І ўсю тэхніку з навукамі абернуць не на паслугі гэтаму зладзейству, а на добрую справу. Не на праліванне крыві, калецтва, асірочванне. Не на забойства праз біццё, рубанне, калоцце, вываpачванне кішак. Не на рванне чалавечага цела на кавалкі. Не на душэнне жывых істот і закапванне іх жыўцом у зямлю. Не на ламанне касцей, руйнаванне ды падпальванне будынкаў, знішчэнне хлеба ды розных раслін. Не на знішчэнне разумных істот і ўсяго таго, чым гэта жыццё падтрымліваецца, даючы тым самым поўную волю і развіццё ворагам гэтага жыцця – голаду, немачы і заразе. А наадварот, на падтрыманне гэтага жыцця, каб яно было сытым і здаровым, высокакультурным, добрым, разумным і прыгожым. А перад усім бясцэнна вольным, непрыгнечаным тымі нягодамі, у якіх нам, бальшыні роду людскога … даводзіцца жыць, аддаваць усе сілы на фізічную працу ды змаганне з прасторам. Прыйдуць часы, калі людзі будуць глядзець на наш аромы хамут і на кірку вугляхопа, як мы цяпер глядзім на старадаўняе вясло з галер. А гарматы ды розныя прыдуманыя для забойства людзей машыны ды прылады пераробляюць на трактары ды друкарскія станкі.

Замест казармў ды крэпасцяў з гарматамі ўзвядуць школы, шпіталі, прытулкі, тэатры, музеі ды астранамічныя абсерваторыі. Усе тыя затраты сродкаў, што ішлі на вядзенне вайны, пойдуць на заваяванне нявыкарыстаных сіл прыроды дзеля аблягчэння мускульнай працы, а побач з гэтым і на заваяванне прастору не толькі на самой зямлі з яе сухапутнымі абшарамі ды акіянамі, але і па-за атмасфернага, міжпланетарнага. Перад усім таго прастору, які нас раздзяляе з найбліжэйшаю планетаю, аднак не з Венераю і не з Марсам, а з нашым хоць і надта старым, але яшчэ жывым светам – ясным Месяцам".

Надышоў лістапад 1933 года. Імглістыя дні змяніліся сухімі, ветранымі, калі яснела далеч і было хараша, як напрадвесні. Людзі падрабіліся на полі, цяпер рупіліся з драбнейшым клопатам пры хаце. Сталі прыходзіць, прыязджаць часаць воўну. У хаце гамана, жарты, смех. Асабліва, калі збіралася некалькі дзяўчат.

Мастак любіў паслухаць жывую гамонку, пажартаваць, пасмяяцца. Але часам уцякаў на гарышча, на столь, як казалі тут, і там у зацішку карпеў над сваімі кіямі: ачышчаў іх, абразаў ды разьбаваў – то галоўку адной з тых смяюх, што ўнізе завіхаліся ля ваўначоскі, то карыкатуру на каго-небудзь, то паважаную, мудрую галаву біблейскага Маісея.

Больш сур'ёзнае, што ўдалося зрабіць у лістападзе, дык гэта барэльефны партрэт маці. Выразаў дарагі вобраз у анфасе на тоўстай бярозавай дошцы. Аблічча маці, выяўленае ў дрэве, было валявым, разумным, ясным.

Скончыўшы працу над барэльефным партрэтам Юзэфы Янаўны з Канчэўскіх, як шаноўна казаў мастак, згадваючы маці, узяўся за партрэт сябра, музыказнаўца-фалькларыста Антона Грыневіча. Сувязі з Мінскам прыпыніліся, і мастак не ведаў, дзе цяпер, над чым працуе яго незабыўны Агрынь. Рысы сябра ажыўляў на камлёвай бярозавай дошцы. Разьбаваў паводле графічнага малюнка, зробленага з натуры ў 1923 годзе ў Вільні. Паказваў нястомнага рупліўца беларускай музыкі схіленым над нотным аркушам, за працай. Буйныя рысы аблічча Грыневіча няблага выяўляліся ў матэрыяле. Яшчэ больш, чым у графічным партрэце, адчувалася значнасць, можна сказаць, маштабнасць асобы. К канцу месяца закончыў разьбаванне.

У самым канцы лістапада з'ездзілі з братам у Глыбокае. На атрыманыя ад музея новыя трыццаць злотых купілі сёе-тое з адзення ды абутку, а таксама з харчоў. Удалося прыкупіць крыху матэрыялаў і для мастацкай працы. Але пыл ад ваўначоскі, сырасць, чаднасць у хаце не давалі працаваць. І вось, забраўшы папку з папераў для малюнкаў, ляску, нядаўна выштукаваную з яблыневага дрэва, адправіўся да Янкі Пачопкі, або Башкіра, як той называў сябе, падпісваючы творы ў "Маланцы". Добра, што было гэта прыстанішча. Янка чалавек хатні, гасцінны, спагадны – сапраўдны сябар. Сюды мастак прыходзіў у цяжкую гадзіну, а часам і проста так, каб адпачыць душой, пагаварыць аб нечым не будзённым.

На гэты раз мастак спадзяваўся кватараваць у сябра. У таго дом быў на два канцы, і меншы стаяў пусты. Але цяпер, як на тое, не пашанцавала. Самога Янкі не было дома, а ў вольнай палове жыў кватарант. Пераначаваўшы ў Летніках, мастак скіроўваецца да паэта Міхася Машары, які пасля турмы вярнуўся ў родную вёску пад Шаркоўшчынай.

Пабыўшы некалькі дзён у Машараў, мастак даведаўся аб цяжкім жыцці паэта. Зямлі ў бацькі – толькі агарод. Міхасю даводзіцца жыць толькі з падзёншчыны. Вось адкуль яны, гэтыя, як уздых, словы паэта: "Эх ты, доля, доля, ну й жыццёвы шлях: па чужому полю з торбай на плячах".

Падараваўшы паэту разьбаваную з грушы ў выглядзе егіпецкага саркафага табакерку, мастак адправіўся ў Антаполле.

Надышоў Новы год. Мастак, як і большасць свят цяпер, сустрэў яго ў Летніках, у Янкі Пачопкі. А на другі дзень новага 1934 года, вярнуўшыся ў Антаполле, пачаў разьбаваць на дошцы з чачоткі партрэт Міхася Машары. Праз тыдзень выява дабрадушнага, паўнатварага паэта была гатова.

*Працяг будзе.*




Язэп Драздовіч. **Засценак Пунькі.** 1922 Папера, туш, пяро. 16,3x25 Нацыянальны музей, Вільня.

**Крыніца:** Арсень Ліс **"Вечны вандроўнік"**

